Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 7 (59) | Вільня, 12-га красавіка 1935 г. | Год 3-ці.

## Чэснае і шчырае прызнаньне.

Справа беларускага школьніцтва амаль ня сходзіць з старонак беларускае прэсы. Усе палітычныя партыі бяз розьніцы кірункаў, усе беларускія арганізацыі бяз розьніцы іх праграмаў і заданьняў заўсёды займаліся й займаюцца гэтым пытаньнем. Складаліся й складаюцца бязупынна дэкларацыі й мэмарыялы, ў каторых беларускае грамадзянства вуснамі сваіх прадстаўнікоў крычала й крычыць аб усёй недарэчнасьці існуючага палажэньня, калі беларускім дзецям адмаўляецца ў іх найэлемэнтарнейшым праве, ў іх натуральнай патрэбе — вучыцца ў роднай матчынай мове. Зварочвалася й усьцяж зварочваецца ўвага адпаведных улад на *нарушэньне элемэнтарнага пэдагогічнага прынцыпу*, без спаўненьня каторага не памогуць ані „дальтонскія", ці „комплексныя" ды „лябораторныя" мэтоды навучаньня, ані „актуалізацыі" й «корэляцыі», ані «пярэднія стражы» й «легіёны млодых», ані новыя праграмы й новая арганізацыя школьніцтва, ані нават так зв. «wychowanie państwowe».

Але аб усім гэтым гаварылі толькі й выключна беларусы, пісала толькі й выключна беларуская прэса, польскае-ж грамадзянства, польская прэса амаль што маўчала. Праўда, лепшая частка польскае дэмакрацыі на розных прыватных конфэрэнцыях падтрымлівала слушныя дамаганьні беларусаў, але публічна аднак гаварылася аб гэтым вельмі ціха, а пісалася зусім мала. З шматлікіх польскіх часопісаў толькі «Kurjer Wileński» і «Przegląd Wileński» час ад часу давалі месца на старонках сваіх часопісаў голасу справядлівага абурэньня. Але затое розныя шовіністычныя шкумацінi на чале з віленскім «Словам» ува ўсіх гэтых дамаганьнях беларусаў бачылі выключна «бальшавізм», «камунізм» ды «антыдзяржаўнасьць». На жаль большасьць урадоўцаў, якія дасталіся ў спадчыне «памаёвым урадам» з «слаўнай» шовіністычна-эндэцкай школы братоў Грабскіх, перамаляваўшыся вонкава на «санацыйны» колер, да сёньняшняга дня тармазіць развязку гэтага важнага й балючага для беларусаў і ня менш важнага й небясьпечнага для Польскае Дзяржавы пытаньня. Тармазіць, ашукваючы тых, ад каго сёньня залежыць вырашэньне важных дзяржаўных пытаньняў, прадстаўленьнем ім ня згоднага з праўдай малюнку сапраўднасьці.

Вось дзеля чаго так Урад, як і ўсё чэснае польскае грамадзянства павінна з удзячнасьцяй прывітаць шчырую й чэсную споведзь той вучыцелькі-полькі, якая пачуваючыся да адказнасьці за рэзультат свае працы, лічыла за свой абавязак падаць да публічнага ведама той жудасна-гумарыстычны малюнак з доўгалетняе практыкі ў пачаткавай польскай школе на беларускіх землях, які быў ёю нашкіцованы ў артыкуле: «Ze smutnych doświadczeń», надрукаваным у „Kurjer'ы Wileńskim" з дня 5 красавіка г. г.

Аўтарка гэтага артыкулу, апісваючы візытацыю школы павятовым інспэктарам, які вельмі нездаволены з роўня веды ў дзяцей, зусім слушна ставіць пытаньне:

> „А ці падумаў калі-небудзь п. інспэктар, з якімі перашкодамі змагаюцца гэтыя дзеці?"

А далей кажа:

> „Хіба-ж ведама ўсім, што дзеці прыходзяць у школу, ня ведаючы ані аднаго, *фактычна, ані аднаго польскага слова*, ня чуюць навокал ніякай іншай мовы акром беларускай. Дый у школе *гавораць напольску выключна толькі са мною*. Дык што-ж мне рабіць з маімі дзяцьмі?
>
> Ці павінна я вучыць *чужое для іх* польскае мовы, ці павінна рэалізаваць з імі праграму пачаткавае школы? Ці павінна перарабляць з імі матар'ял навучаньня з матэматыкі, географіі, гісторыі, прыроды, ці перш павінна навучыць іх гаварыць, чытаць і пісаць папольску? Бо-ж адно й другое адначасна зрабіць ня ўдасца. Ці-ж магчыма ад маіх дзяцей вымагаць толькі-ж, колькі вымагаецца паводле праграмы ад дзяцей, якія ў хаце гавораць папольску. Хіба-ж усе згодзяцца з тым, што мае дзеці маюць *два разы столькі работы* як тыя: вывучаць праграму ды навучыцца гаварыць папольску так, каб можна было адолець гэную праграму. Бо-ж адно ўзалежнена ад другога. Калі-б,—зазначае далей вучыцелька, — *мае дзеці вучыліся пабеларуску, дык зразумела, што праграма школы была-б зрэалізавана, але дзеці ня зналі-б добра польскае мовы.*
>
> Але так, як цяпер ёсьць, дык ня ўмеюць добра па польску і праграмны матар'ял не апанаваны.
>
> Якi-ж выхад з гэтага зачарованага кола?
>
> „Я часта прыглядаюся, — кажа наша вучыцелька,—да маіх дзяцей падчас пераменак і гульняў, калі яны чуюцца зусім свабоднымі. Ня чула я тады ніколі, каб яны сказалі да сябе хоць адно польскае слова. Калі яны адны—гавараць толькі пабеларуску. *Заўсёды толькі пабеларуску гавораць між сабою ў хаце.* Папольску гавораць толькі са мною, гавораць на лекцыях. Гавораць пад прымусам і з труднасьцямі, з напружаньнем, прыпамінаючы словы, грабучыся ў тым невялікім запасе слоў, які маюць, *асабліва й прыгнечаныя гэтым прымусам чужаземнае мовы*, якая адбірае ім свабоду й беспасрэднасьць, магчымасьць выказаць тое, што думае, тармазіць іх думку й пачуцьці.
>
> Дзеці мае *ніколі ня думаюць папольску*. Прыслухоўваюся да іх шэптаў, калі аблічаюць нешта на лекцыях матэматыкі. *„Чатырнаццаць і пяць, дваццаць чатыры й адзін" і г. д.* шэпчуць мае дзеці. Слухаю іх шэптаў падчас вусных заняткаў, тады пытаюцца адзін другога:
>
> „Ці *„Jaskółka" трэба пісаць праз ó ці у? Ці „pisać" гэта пшымётнік ці жачоўнік?* Ніколі йначай. Усе іх гутаркі аб лекцыях і навуцы вядуцца заўсёды пабеларуску.
>
> Найгорш аднак з сямігодкамі, каторыя толькі што прышлі ў школу. *Яны глухія і нямыя.* Не разумеюць што гэта „атрамэнт" і „олувэк", што „люфцік" і „выцірачка". На ўсякія мае загады й дарučэньні не рэагуюць зусім — не разумеюць. Пытаюся й пытаюся, пробую завязаць гутарку, каб дзеці выказаліся самі - нічога аднак не памагае!
>
> Калі-ж мяне часам зразумеюць. калі траплю на тэму ім блізкую й для іх цікавую, дык тады ўжо нішто ня можа ўстрымаць ад *самастойнага вясёлага адказу ў роднай мове.* Кажу напр. што пойдзем ляпіць бабу з сьнегу — гэта дзеці зразумелі — ў клясе радасьць. Як-жа яе зьлепім—пытаю, з чаго ёй зробім вочы? „З вугля!" радасна крычыць уся кляса.
>
> Некалі йзноў гаварылі „о pieskach". Дзеці зразумелі, што „pies" гэта сабака і неяк пашло. Пытаюся, якога „pieska" мае кожны ў хаце. Пачынаюць хутка сыпаць адказы: „Наш жучка зусім чорны; а наш рабчык - белы й жоўты! — А наш мурза-шэры" і г. д.
>
> Ці-ж магу я ўстрымаць гэтую навалу спонтанічных адказаў і загадаць усё тлумачыць на польскую мову? А што-ж мне хадзіць? Ці аб распрацоўку тэмы, выкарыстаньне ўзгадаваўчых мамэнтаў, узбуджэньне ўласных перажываньняў дзяцей ды збагачэньне іх спасьціроgi — ці аб апанаваньне з дзяцьмі некалькіх польскіх выражэньняў? Як павінна рэалізаваць я новую праграму пачаткавае школы з беларускімі дзяцьмі?
>
> *17 гадоў працуе ўжо публічная пачаткавая школа на землях, заселеных беларусамі.* — 17 гадоў вучым беларускіх дзяцей папольску. *Які-ж маем сьлед гэтае працы?* Дзеці гавораць папольску толькі ў школе, або пры нейкіх надзвычайных урачыстасьцях.
>
> Але запас узгадаваўчых цэннасьцяў у школе зьмяншаецца. Курчыцца й прыймае непажаданыя формы дзеля таго, што не паразумеваемся з дзяцьмі ў іх роднай мове.
>
> Але *школа не спаўняе свайго заданьня ані ў галіне навучаньня, ані ў галіне ўзгадаваньня.*
>
> Але школьная веда, ня будучы належна з'асыміляванай, вылятае вельмі хутка з дзіцячай галавы.
>
> Але пры помачы польскае кніжкі не ўдаецца дзецям прышчапіць зацікаўленьня да чытаньня і дзіця пасьля выхаду з школы наагул ня чытае кніжак, і ня раз на вёсцы мы спатыкаемся *з зьявішчам паўторнага анальфабэтызму*".

На заканчэньне свайго цікавага артыкулу вучыцелька ставіць пытаньне, як відаць, і польскаму грамадзянству і польскаму Ураду:

> „Ці-ж гэта зьяўляецца тым шляхам, ідучы па каторым мы зьвяжам Беларуса з Польскаю Дзяржаваю? І ці мэтод, каторым мы карысталіся дагэтуль, ня выказаў па 17 гадох сумных рэзультатаў?"

У пастаўленым пытаньні як бачым зьмяшчаецца й адказ—адказ, вельмі сумны з пункту гледжаньня дзяржаўнага й страшна-*жудасны* з пункту гледжаньня пэдагогічнага.

Ці-ж і пасьля гэтага шчырага, чэснага голасу *роспачы* скромнае школьнае работніцы, *якая стаіць на недасягальнай вышыні* сярод шэрага чыноўніцкага натоўпу большасьці чужога для гэтага краю вучыцельства, школьныя й вышэйшыя адміністрацыйныя ўлады застануцца глухімі й нямымі, як тыя сямігодкі? **Эра.**

**P. S.** На заканчэньне прынасім нязнанай нам аўтарцы, якая з такою любоўю гаворыць аб нашых пакрыўджаных беларускіх дзетках, пазбаўленых найэлементарнейшага права вучыцца ў роднай мове, шчырую падзяку за сьмелае, шчырае й чэснае прызнаньне, а рэдакцыі „Kurjera Wileńskiego" за надрукаваньне.

Верым, што калі польская прэса і польскае грамадзянства часьцей будуць чэсна й об'ектыўна забіраць голас у беларускай справе, дык хутчэй будзе засыпана тая глыбокая пропасьць, якую выканалі шовіністычныя „zbawcy ojczyzny" паміж беларускім і польскім народам. **Рэдакцыя.**

# Баявое заданьне.

Літэратурны фронт Заходняе Беларусі ў апошнія часы надта слабы. Паміма нарастаньня новых сіл, новага літэратурнага пакаленьня, наша літэратура навонкі прадстаўляецца бледна і непаказна.

Пэўны час у Зах. Беларусі ня было наагул ніякае літэратурнае часопісі. У гэтым годзе пачало выходзіць „Калосьсе", якое, не бяручы пад увагу яго ахварбоўкі і кірунку, ня можа задаволіць патрэбы нашых поэтаў і пісьменьнікаў. Па першае „Калосьсе" выходзіць квартальна (?), хоць яшчэ другога нумару дагэтуль ня выйшла, падругое — „Калосьсе" — ня выключна літэратурная часопісь.

Наш поэт і пісьменьнік надалей знаходзіцца ў цёмным завулку, чакаючы „лепшых часоў", пішучы, з надзеяй „каліс" быць надрукаваным.

Адносна „Шляху Моладзі" мусім сказаць, што ён мае выразны каталіцка-хадэцкі напрамак і таму ня можа згуртаваць усіх поэтаў. Праўда, пачынаючыя сілы знаходзяць у ім часта прытулак, і ў гэтым вялікае значэньне гэтае часопісі. „Шлях Моладзі", з другога боку, трымаецца закасьцянелых форм поэзіі і культывуе „нашаніўшчыну". У гэтым, бязумоўна, ня вінаваты поўнасьцю „ШляхМоладзі", бо „Нашаніўшчына" у Зах. Беларусі ёсьць вынікам палажэньня, у якім знаходзіцца беларускі народ.

Нельга аднак зачыняць вочы на тое, што „нашаніўскі лад" ужо „адпеты" і мы з ім далёка адсталі ад іншых літэратур. Іншыя цячэньні ў поэзіі бязумоўна уплывалі-б і на нашу сучаснасьць. Цяпер-жа мы бачым, што сучаснасьць уплывае на поэзію, Дый „нашаніўшчына" ня ёсьць у сапраўднасьці адбіцьцём усяцэлае нашае сучаснасьці. Нашае жыцьцё пайшло па іншых шляхох і іншыя шляхі мусяць намячацца і ў поэзіі.

Ня мала адыходзіць ад „Шляху Моладзі" па сваіму кірунку і ладу „Калосьсе".

Які з гэтага вывад?

Вывад ясны: трэба даць магчымасьць нашым поэтам і пісьменьнікам узгадоўвацца й разьвівацца.

Найлепшым, бязумоўна, выразам справы быў-бы Саюз Пісьменьнікаў Зах. Беларусі. Хто аднак сочыць за літэратурным рухам у Зах. Беларусі, той ведае, як трудна зарганізаваць гэты Саюз. Спробы стварэньня Саюзу Літэратараў усьцяж канчаліся з тых ці іншых прычын нічым. Для стварэньня Саюзу па нашай думцы павінен быць прыгатаваны грунт, павінна быць зроблена падгатаваўчая праца.

А гэтай падгатаваўчай працай будзе падтрыманьне маладых літэратурных сіл, якія выбіваюцца ўсьцяж на літэратурны гарызонт, але і хутка гінуць з яго дзеля няспрыяючых варункаў.

Марнуюцца творчыя сілы, якія наш народ паднялі-б з цемры і узьвялічылі

Мы спатыкаем аднаго чалавека, які напісаў некалькі беларускіх повесьцяў. Няма выдаўца. Няма выдавецтваў. Повесьці адсылаюцца ў Kurjer Wileński", дзе яны, калі будуць прызнаны, пойдуць папольску. Нашымі творчымі сіламі будуць карміцца чужыя культуры.

Што-ж рабіць? Які знайсьці выхад, каб будучыя Рэмаркі, Фінкі нашы маглі..імі стацца?

Трэба перадусім утварыць чыста літэратурную часопісь, якая-б сталася вогнішчам літэратурнага руху Зах. Беларусі. Ня час яшчэ тварыць нам літэратурныя школы. Праца павінна ісьці ў кірунку гуртаваньня ўсіх сіл, каб у будучыні стварыць Саюз Поэтаў і Пісьменьнікаў.

Газэта мусіла-б навязаць сталую перапіску з літэратурнымі працаўнікамі.

Існавала пэўны час у Вільні група літэратараў, якая мела выдаваць падобную часопісь „Контуры", але тымчасам нічога аб ёй ня чуваць.

На перашкодзе ўсіх нашых пачынаньняў стаяць матэр'яльныя перашкоды. Нельга спадзявацца на „самаахвярнасьць" грамадзянства. Трэба паставіць справу на моцны коопэратыўны грунт. Стварыўшы на коопэратыўных падставах Часопісь, можна было-б пры часопісі залажыць і коопэратыўнае выдавецтва.

У справе такога выдавецтва ўжо гаворылася шмат сярод віленскіх беларусаў. Грунт падгатаваны. Як мы даведваемся, ужо нават пачала працу пэўная група з мэтай выданьняў драматычных твораў для тэатру.

Пажадана было-б, каб справай выдавецтваў заняліся і нашыя прадпрыемцы, якіх у Вільні разьвялося даволі шмат.

Кожны, з кім прыходзіцца гаварыць аб выдавецтве, сумляваецца ў магчымасьцях рынку. І тут ня трэба быць пэсымістам. Трэба глянуць на дасюлешнюю арганізацыю продажы кніжак, каб пераканацца, што часткова мы самі былі вінаваты ў слабой ходкасьці кніжкі. Няма рэклямы, няма кнігарняў на правінцыі, мала добрых кніжак.

Дадзеныя ёсьць. Трэба толькі распачаць працу.

Калі гэтае баявое заданьне будзе выканана нашым грамадзянствам, літэратурны фронт Зах. Беларусі непамерна пашырыцца й разгорнецца.

*Д.*

# Няўдачы сельскае гаспадаркі ў СССР.

Гэтак званая індустрыялізацыя або разьвіваньне прамысловае галіны дзяржаўнае гаспадаркі зьяўляецца галоўнаю задачаю савецкае эканамічнае палітыкі. І ў гэтай галіне ў бальшавікоў за мінулы 1934 год запраўды ёсьць вельмі паважныя дасягненьні.

У той-жа самы час узмоцненая колектывізацыя сельскае гаспадаркі, ад якой залежыць харчаваньне жыхароў, ня толькі не дае за мінулы год ніякіх дасягненьняў, а наадварот — выказвае значныя мінусы ў сельска-гаспадарчай прадукцыі.

У Празе нядаўна выйшаў № 119 „Бюлетэню эканамічнага кабінэту праф. С. Пракаповіча", дзе прыведзены вельмі цікавыя цыфры аб бальшавіцкай гаспадарцы, узятыя з самое савецкае статыстыкі.

Цяжкая прамысловасьць, паводле гэтых даных, выказала ў 1934 г. сільны ўздым. Вугля дабыта 92 мільёны тоннаў, або ледзь не на 16 мільёнаў болей, як залетась. Колькасьць гэтая ў тры разы перавасіла давенную (за 1913 год). Нафты атрымана $25\frac{1}{2}$ мільёнаў тоннаў, якія значна перавышаюць даваенныя 9,3 мільёна. Чугуна дабыта 10,4 мільёна тоннаў, або ў $2\frac{1}{2}$ разы больш як у даваенны час. сталі — 9,6 мільёна ці крыху больш як у 2 разы за даваенную гадавую норму.

А што датычыць лёгкае прамысловасьці, дык сама савецкая прэса заяўляе, што тут „палажэньне і далей застаецца нездавальняючым".

Як-жа выглядала колектывізацыя сельскіх гаспадарак у 1934 годзе? Яна рабіла значны поступ, ахапіўшы $16\frac{1}{2}$ мільёнаў сялянскіх гаспадарак або 74% ўсіх, якія існуюць. Паводле пляну, у 1938 годзе ў СССР не павінна застацца ніводнае індывідуальнае гаспадаркі. Уся сельская гаспадарка Савецкага Саюзу мае цяпер 281.000 трактараў агульнае моцы ў $4\frac{1}{2}$ мільёны конскіх сілаў. Апрача таго за 1933-34 г.г. сельская гаспадарка атрымала 18 тысяч камбайнаў, 25 тысяч цяжкіх самаходаў, 24 тысячы малатарняў ды яшчэ некаторыя машыны. Але разам з гэтым далей узрастала паменшаньне коняй, буйное рагатае і дробнае жывёлы, апрача сьвіней. Коняй паменшала ў параўнаньні з 1933 годам на 1.300.000 штук.Цяпер іх ёсьць толькі 15.000.000 штук, замест 35.8 0.000 даваенных. Колькасьць кароў і быкоў паменшылася ў параўнаньні з даваенаю блізка што напалавіну (з 60 мільёнаў на 37), а ў параўнаньні з 1933 годам паменшаньне выражаецца 800.000 штукамі. Плян у галіне жывёлагадоўлі аказаўся зусім нерэальным. Павялічэньне трактараў ды іншых машынаў ніяк не магло пакрыць стратаў у жывой рабочай сіле. Гэта павяло нават

***Барыс Лаўрэнеў.***

# Васковая пэрсона.

*(Расказ з савецкага быту. Пераклад з расейскага К. М.).*

За шырокім вакном кабінэту было нярухомае паветра і мароз. Ішлі апошнія дні студня 1933 году. Начальнік марскога музэю ў Ленінградзе Павал Захаравіч Сіўкоў заклапочана глядзеў у вакно, не заўважаючы бегу фордаў удоўж Нявы шырокае і дзявочых твараў, ясьнейшых за рожы. Не да дзявочых твараў было. З вельмі выдатнага музэю які быў пад загадам таварыша Сіўкова і толькі што скромна адсьвяткаваў пачэсную юбілейную дату — дзьвёхсотдваццацьпяцьгодзьдзе, раптам пачалі прападаць экспонаты.

Прападалі рэчы, меўшыя і гістарычную і торгсінаўскую вартасьць. Залатыя ордэны і палеты, залатая зброя, залатыя і сярэбраныя дошчачкі з альбомаў і адрэсоў, груба зьдзіраныя разам з саф'янам і шагрэньню, прадметы абмундзераваньня, сьцягі высокасортнага шоўку, дваццацёх мэтраў у квадрацы.

Злодзея не затрымлівалі ні замкнёныя вітрыны, ні плёмбы.

Начальнік музэю ўзмацняў варту. Склікаў спэцыяльныя нарады супрацоўнікаў і вахтэраў дзеля абгавору мераў барацьбы з кражамі. Але нават і ў дні гэтых нарадаў злодзей меў хітрасьць не пакідаць свае шкодніцкае работы.

Таварыш Сіўкоў некалькі разоў заяўляў у *Угрозыск* і прасіў даць сабаку. Але сабаку Угрозыск адмаўляўся даць і выстаўляў начальніку музэю дзіўное вымаганьне: „сказаць, каго ён падазравае". Бяз гэтага Угрозыск ня мог знайсьці злодзея.

Таварыш Сіўкоў паціскаў плячыма і даходзіў да роспачы. Калі-б ён меў на каго-небудзь падазрэньне, дык ён справіўся-б і бяз Угрозыску. Нашто-ж тады існуе гэтая цікавая установа, якой трэба паказаць пальцам на злодзея, каб яна яго злавіла?

— Дармаеды!

Павал Захарыч сярдзіта пляснуў далоняй па чарговым рапарце аб прапажы.

Было ясна, што крадзе свая рука, якая ў памяшчэньні музэю— ўладыка. Але, перабіраючы ў соты раз у мазгох усіх супрацоўнікаў і старажоў, Павал Захарыч ня мог цьвёрда затрымацца на чыёй-небудзь кандыдатуры ў „сьвістуны".

Раптоўна дзьверы кабінэту адчыніліся энэргічна, з трэскатам, і ў кабінэт увайшоў навуковы супрацоўнік Імярэк. Па стрывожаным тварі падуладнага таварыш Сіўкоў зразумеў, што здарылася нешта, вартае ўвагі.

— У чым справа? — спытаўся ён.

Імярэк азірнуўся, шчыльна прычыніў дзьверы і выцягнуў з-пад каптана два корцікі з пазалочанымі ручкамі. Таварыш Сіўкоў зумеўшыся пазіраў на сонечныя іскры ў ручках зброі.

— Ну, корцікі! Нашто ты іх прывалок?

— Гэта ня корцікі, — адказаў Імярэк, — гэта уліка, таварыш начальнік музэю. Я цяпер прыводзіў у парадак вітрыну, тую, ведаеце, у каторай трофэі з „Магдэбургу". Помніце, там скрыначка гэткая ёсьць, а ў ёй шрапнэльныя кулькі. Я яе ўзяў нялоўка, кулька пакацілася па паркеце і пад шафу з манэкенамі. Я пачаў рукою мацаць і вось натыкаюся на гэта. Ясная справа—прыхована да лепшага выпадку, каб вынесьці цішком.

— Якую шафу?... Вядзі!—падскочыў Павал Захарыч, загараючыся надзеяю.

Яны выйшлі ў даўгі калідор. У музэі яшчэ ішоў рэмонт. Каля аднае з шафаў стаяла бляшанка з асфальтовым лякам. На міг Сіўкоў затрымаўся і, нахмарыўшы лоб, паглядзеў на бляшанку. Пасьля прыказаў Імярэку:

— Бяры бляшанку!

— Нашто?

— Там пабачыш.

Абодва падыйшлі да шафы з манэкенамі маракоў эпохі Пётры Вялікага. Гэта быў глухі і цёмны куток музэю. У паўзмроку сядзеўшыя і стаяўшыя ў шафе сержанты, капралы і бомбардзеры, здаваліся жывымі. Сіўкоў з Імярэкам уважна агледзелі шафу. У ёй ня было нічога таямнічага. Павал Захарыч засунуў руку ў вузкую шчыліну паміж ніжняю дошкаю і паркетам, але, апрача пылу, нічога там не знайшоў. На версе шафы было таксама пуста. Тады таварыш Сіўкоў усьміхнуўся, узяў з бляшанкі пэндзаль і асьцярожна, стараючыся не запэцкаць звонку, некалькі разоў густа пашмараваў лякам ніжнюю дошку шафы. Скончыўшы гэтую работу, ён старанліва выцер папераю дзьве каплі, папаўшыя на паркет, і адвярнуўся да Імярэка.

— Вось якая справа, даражэнькі. Цяпер унізе агульны сход супрацоўнікаў будзе аб пазычцы. Дык ты ня ідзі. Зараз-жа ідзі да хаты, а я скажу, што ты раптоўна захварэў і некалькі дзён ня прыдзеш. А заўтра, ледзь золак, калі яшчэ нікога ня будзе, прыходзь. Апранай сержантаву уніформу, трохвуголку, бяры крэсла і сядай у самы куток, дзе найцямней. У цемнаце ня відаць, толькі сядзі, як прыклееены. Я таксама прыду раней, дам табе ўсе інструкцыі. Мы яго сцапаем. Выседзіш?

— А то не? — упэўненна сказаў Імярэк з заблішчэўшымі вачыма. Ідэя начальніка ўсьцешыла яго.

Корцікі былі засунены на ранейшае месца. Імярэк пайшоў дадому, а Павал Захарыч на агульны сход. Вестка аб раптоўнай хваробе таварыша па службе была прынята з агульным спачуваньнем. У гэты дзень Павал Захарыч выйшаў з музэю толькі ўночы і, разьвітваючыся, прыказаў начному вахтэру:

— Заўтра Імярэк прыдзе ў музэй ледзь золак. Упусьціш яго і нікому ні слова, што ты яго бачыў. Зразумеў?

У дзевяць гадзін раніцы, яшчэ да прыходу супрацоўнікаў, Павал Захарыч асьцярожненька прайшоў да пятроўскае шафы. Манэкены былі нярухомыя, і ў цемнаце сам начальнік музэю не адразу разабраў, дзе знайшла месца новая васковая пэрсона. Толькі на простае пытаньне пачуўся глухім голасам адказ.

— Здарова працуеш, — сказаў Павал Захарыч, аглядаючы нярухомую фігуру, абапёртую на эспонтон і нізка нацягнуўшую на вочы трохвуголку. — Цяпер слухай: я кожную гадзіну наведвацца буду і размаўляць будзем сыгналізацыяй. Раз у падлогу стукну—гэта значыць: „як чуешся?" Калі добра, дык таксама раз стукні. Блага — два. Два разы я стукну — гэта: „ці ня здарылася што?" Калі не,—адказвай таксама двакротна. А калі здарэньне будзе, — тры разы. Ну,

## Спэкуляцыя пакоямі ў Маскве.

Маскоўская газэта „Правда“ (№ 84) паведамляе:

Матанаў прымаў кліентаў у дзьвёх сваіх, добра абстаўленых кватэрах. Спэцыяльнасьць Матанава — прадажа пакояў установам. „Кліентамі“ Матанава былі „Мясохладострой“, „Волгострой“, „Союзлесосбыт“, Маскоўскі кінакамбінат, Акадэмія архітэктуры ды іншыя ўстановы.

На набыцьцё кватэраў гэтыя арганізацыі трацілі вялізныя грошы. Напрыклад, „Мясохладострой“ выдаў на кватэры каля 400 тысяч рублёў. Удзячныя „кліенты“ памагалі Матанаву ўтайваць яго праступленьні. Яму выдавалі пасьведчаньні, па якіх ён лічыўся „консультантам па кватэрных пытаньнях“

У Матанава быў свой прыватны адвакат, сябра маскоўскае калегіі абаронцаў Варшаўскі. Ён зацягваў разгляд справаў у судах, а іншы раз нават кідаўся на праступленьні. Гэтак Варшаўскі за 2000 рублёў выкраў дакумэнты з справы аб высяленьні з незаконна атрыманае кватэры кіраўніка „Союзлесосбыту“ Едзелькіна.

У Філіпавай — іншая спэцыяльнасьць. Яна займалася фікцыйным абменам пакояў у кватэрных таварыствах. Ёй памагалі загадчыкі дамоў — Байкоў з дому № 52 на В. Грузінскай вуліцы і Авер‘янава з дому № 46 на 2-й Берасьцейскай вуліцы. Яны давалі за хабары кліентам Філіпавай фікцыйныя спраўкі на абмен неістнаваўшае плошчы, прапісвалі іх у сваіх дамох. За абмен пакояў Філіпава атрымлівала ад 4 да 10 тысяч рублёў. У яе быў свой штат — 2 камісіянэры і 2 падручныя на пасылках.

Процізаконнымі транзакцыямі аб фікцыйным абмене пакояў займаліся таксама махляры Пімелаў і Буйлоў.

Нядаўна ўсе гэтыя праступнікі і „абаронца“ Варшаўскі арыштованы маскоўскаю пракуратураю. Таксама арыштованы кіраўнік „Союзлесосбыту“ Едзелькін, начальнік чаркаўскае канторы гэтае самае ўстановы Паленюк ды іншыя, хто незаконна абмяняў кватэры праз махляроў..

---

да зьменшаньня, у параўнаньні з 1932 годам, пасеўнага абшару ў галіне тэхнічных культураў. Замест 14.900.000 гэктараў, яны ў 1934 г. занялі толькі 10.700.000. Агульная пасеўная плошча, у параўнаньні з даваенным часам, пабольшала з 116 да 130 мільёнаў гэктараў, але збор з гэктара, асабліва тэхнічных расьлінаў значна абнізіўся. Бавоўна-сыр‘ё замест 10,7 цэнтнара ў 1913 годзе дала ў 1934 годзе—8,1 цэнтнара з гэктара, лён-валакно, замест 3,2 — толькі 2,5 цэнтнара, цукровыя буракі, замест 167,7 цэнтнара,—толькі 96 ц.

Дзякуючы бязьлітасным мерам проці раскраданьня насяленьнем уласнага хлеба цераз „узмоцненыя страты ў часе збору“, агульны збор усялякага збожжа, як заявіў камісар Молатаў, аказаўся большым за леташні на 250-300 мільёнаў пудоў. Дакладныя цыфры збору афіцыяльна яшчэ не апублікованы. „Бюлетэнь“ Пракаповіча падае цыфру 845 мільёнаў цэнтнараў, г. знач. каля 5 мільярдаў 70 мільёнаў пудоў. А як заявіў былы народны камісар земляробства Якаўлеў, дзяржава мае з ураджаю 1934 году ня менш як 1½ мільярда пудоў хлеба. У земляробскага насяленьня засталося каля трох з паловаю мільярдаў пудоў. Як аблічвае бюлетэнь гэта азначала „недастачу харчоў для людзей і корму для жывёлы“ ў 1934 годзе.

А значыцца голад у СССР не зьяўляецца байкаю. Індустрыя можа нафабрыкаваць машынаў, але яна ня творыць харчоў, прадукцыя якіх належыць да сельскае гаспадаркі, над якою праводзіцца круты бальшавіцкі экспэрымэнт колектывізацыі.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

# З правінцыі.

## Сваё заўсёды любае.

(Валожынскі павет).

Цяпер зімою і раньняй вясною на вёсцы людзі маюць шмат вольнага часу. Гаспадаркі пераважна невялікія, рабочых рук шмат, а заработкі трапляюцца незаўсёды, дык наша вясковая моладзь часта ня ведае, што рабіць, куды дзець вольны час. Праўда, ў вёсках шмат дзе паадчынялі сьвятліцы, пераважна пры школах, і там можна карыстацца з кніжак, разумеецца толькі з польскіх, бо беларускіх кніжак у гэтых бібліятэках няма. Моладзь часам зьбіраецца ў сьвятліцах, бярэ з бібліятэкі кніжкі, але чытае іх ня вельмі ахвотна, наракаючы на няцікавасьць польскіх кніжак. А вось неяк у нашу вёску трапіў беларускі календар, дзе між іншым надрукавана „Дзядзька ў Вільні“ Я. Коласа. Трудна перадаць, з якім захопленьнем чыталі і слухалі гэта апавяданьне і старэйшыя людзі, і моладзь і дзеці. Некаторыя з маладых дык сумысьля пачалі вучыцца беларускіх літараў, каб магчы чытаць гэтае апавяданьне. Календар пераходзіць з аднае хаты ў другую, як нешта вельмі дарагое, бо яно-ж сваё, роднае, для кожнага зразумелае, блізкае. Каб такія кніжкі былі па вёсках, дык можа наша моладзь і ў карты менш бы гуляла і да гарэлкі можа ня так гарнулася-б, як цяпер. На маю думку навучыць нечаму добраму нашу моладзь можна толькі з беларускіх кніжак, бо яны гавораць да сэрца. Няпраўда, быццам у беларускіх кніжках незразумелая для нас сялян мова. Ня ведаю, як дзе, але каля нас дык якраз так гавораць, як напісана апавяданьне „Дзядзька ў Вільні“. Калі слухаем гэтае апавяданьне, то здаецца, што сапраўды наш дзядзька расказвае аб тым, што ён бачыў і што з ім здарылася ў Вільні.

*М—ы.*

## Хочам чытаць пабеларуску.

(Маладэчанскі павет).

Каля нас па вёсках часам пападаюцца беларускія кніжкі, але наша вясковая моладзь, якая вучылася ў польскіх школах, вельмі часта ня ведае беларускіх літараў і таму ня можа чытаць беларускіх кніжак. Старэйшыя, хоць і менш вучыліся, а ўсё-ж сяк-так чытаюць пабеларуску. Ахвотнікаў да беларускіх кніжак сярод моладзі вельмі многа, але няма па чым вучыцца чытаць пабеларуску, нідзе ня знойдзеш беларускага лемантара.

Дык хто граматны з старэйшых, той пакрысе паказвае маладым, але йдзе гэта вельмі туга, бо старэйшыя ізноў-жа часта ня ўмеюць папольску.

Вось мы і зварочваемся з просьбай, каб Паважаная Рэдакцыя надрукавала ў сваёй газэце польскія літары, а побач беларускія друкаваныя і пісаныя. Можа тады маладыя патрапілі-б і самі пакрысе вучыцца чытаць пабеларуску. Мусіць, тое самае ёсьць і ў іншых мясцох і шмат хто мог-бы скарыстаць з такой азбукі.

*М. Б.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— На іншым месцы газэты зьмяшчаем зацемку аб сьвяткаваньні Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Т-вам Бел. Асьветы і блізкімі да яго арганізацыямі, з якой відаць, што ў зладжаным т-вам сьвяткаваньні прымала удзел шмат людзей.

Беларускія віленскія хадэкі таксама сьвяткавалі, але набажэнства ў Мікалаеўскім касьцёле адбылося чамусьці 24-га сакавіка у нядзелю, а не 25-га. Мусіць таму, што у панядзелак было-б у касьцёле народу „ня густа“, як было і на хадэцкай акадэміі, што відаць хоць-бы з адчытаных прывітаньняў, большасьць якіх прыслалі сябры таго-ж самага віленскага т. званага „нацыянальнага“ Камітэту.

---

шчасьліва сядзець.

Павал Захарыч выйшаў. Васковая пэрсона засталася адна. У шафе было душнавата і паскудна ваняла нафталінам ды старым сукном. Хацелася чыхаць, і васковая пэрсона ледзь стрымлівалася. Запраўдныя васковыя бомбардзеры і боцманы коса паглядалі на новага калегу бязглуздымі шклянымі вачыма. Зьявіліся адведвальнікі. Спачатку адзіночкі, пасьля павалілі экскурсіі. У цёмным кутку каля манэкенаў яны не затрымліваліся доўга, і захоўваць часовую скамянелую нярухлівасьць было нятрудна. Толькі адзін чалавек ледзь не давёў васковае пэрсоны да самленьня. Мусі гэта быў нейкі тэатральны мастак. Ён упэўненна падыйшоў проста да шафы, выцягнуў маленечкі альбомчык і, стаўшы проці васковае пэрсоны, пачаў яе маляваць. Халодны пот праняў сержанта. Ён меў магчымасьць дыхаць і міргаць толькі тады, калі мастак спушчаў вочы на паперу. І ў гэтыя сэкунды васковая пэрсона глядзела на маляваўшага з дзікаю злосьцю.

— Вось прычапіўся, сволач!

Нарэшце мастак адыйшоў, і пэрсона задыхала шумліва, як паравоз.

Дзень прайшоў бяз прыгодаў. Пасьля зачыненьня музэю пэрсона папалуднавала ў шафе і, выслухаўшы пажаданьне спакойнай ночы, засталася адна. Апоўначы яна вылезла з шафы і няблага храпнула на палубе вялікае модэлі карабля „Рэтвізан“. Раніцай яна заняла сваё месца. Два дні яе стараньняў прайшлі безрэзультатна. На трэці, па палудні, Павал Захарыч Сіўкоў атрымаў на сваё двакротнае стуканьне нечакана трыкротны адказ. Ён кінуўся да шафы і, аглянуўшыся, адчыніў дзьверцы.

— Што?

— Ёсьць! Толькі што падыйшоў Чыгір. Закінуў нейкі пакет на шафу, а сам палез пад ніз і выцягнуў корцікі. Схаваў у кішэнь і выйшаў. Я шкадаваў, што вы шафу замкнулі. Я мог-бы яго за карак на месцы сцапаць.

— Добра, што ня сцапаў,—адказаў Павал Захарыч,—бо-ж чалавек памёрці мог на месцы. Ты падумай — сярод белага дня пятроўскі сержант з шафы за каўнер хапае. Ну, вылазь і ідзі адпачываць. Дзякую за службу.

Павал Захарыч зайшоў у суседнюю залю. Там працавалі, устанаўляючы новую экспозыцыю, навуковыя працаўнікі Данілаў і Амелін. Ім памагаў супрацоўнік Чыгір.

Таварыш Сіўкоў задумаўся. Якраз, калі ён перабіраў у памяці супрацоўнікаў, дык некалькі разоў яго думка падазронна затрымлівалася на Чыгіру. Чыгір быў старшынёю на флёце і быў выгнаны за п‘янства. Ён прыйшоў прасіць работы, бажыўся, што паправіўся, і начальнік музэю ўзяў яго. Простых доказаў проці Чыгіра ня было, але багамерзкая морда яго ўводзіла ў сумляваньне. Цяпер сумляваньне абярнулася ў пэўнасьць.

Падыйшоўшы бліжэй, Павал Захарыч зьвярнуў увагу, што Чыгір адкасаў рукаў сіняе рабочае блюзы на правай руцэ, затуліўшы ім кісьць да канцоў пальцаў. Павал Захарыч прыняў удзел у рабоце.

— А ну, памажы на шафу падняць, — сказаў ён Чыгіру, бяручыся за модэль фрэгата.

Калі Чыгір падняў руку, рукаў скаціўся, і на тылавым баку кісьці відадь было чорную пляму, абкружаную чырваняй. Як відаць, дык Чыгір ужо прабаваў адмыць, але асфальтовы ляк — чартоўскі вынаход.

— Дзе руку завэдзгаў? — спакойна спытаўся начальнік музэю.

— Замок у гармаце адчыняў, Павал Захарыч. Змазка, — вочы ў Чыгіра залыпалі.

— Гармату адчыняў? Не адчыняў. а заліваеш гарматы. Хадзем, я табе гармату пакажу, — і Павал Захарыч павалок Чыгіра да шафы. Там ён засунуў руку пад ніз і, выцягнуўшы, прадэмонстраваў пляму на сваёй кісьці.

— Вось твая гармата. А цяпер даставай з шафы, што закінуў.

Чыгір паслухмяна дастаў. З пакета, разьвінуўшыся, бліснуў шоўкам імпэратарскі штандар і андрэеўскі сьцяг.

— Добрыя вопраткі бабе выйдуць, — з лятуценьнем заўважыла васковая пэрсона.

— Будзеш арыштованы,—сказаў Сіўкоў. — Выклікаць Угрозыск.

Чыгір сядзеў у кутку пад даглядам вахтэра, калі Данілаў і Амелін вярнуліся з агентам Угрозыску з яго кватэры пасьля трускі. У кватэры, часткова ў шафе Чыгіровай жонкі, былі знойдзены шмат якія з украдзеных экспонатаў, некаторыя ўжо ў перарobленым на блюзкі выглядзе.

— Шчасьлівай дарогі! — пажадаў Павал Захарыч паведзенаму агентам Чыгіру, — хутка ня ўбачымся.

Раніцай працаўнікі музэю разам з начальнікам жыва абгаворвалі падзеі. Васковая пэрсона была прадметам агульнае ўцехі і скромна прымала пахвалы. У разгар яе расказу адчыніліся дзьверы кабінэту і на парозе стаў... Чыгір. Паўтарылася нямая сцэна з „Рэвізора“.

— Ты як трапіў? — спытаўся Павал Захарыч, адступаючы і заікнуўшыся ад нечаканасьці.—Гэта-ж цябе ў Угрозыск, павялі.

Чыгір так сабе ўсьмяхнуўся.

— Вялікая штука, — сказаў ён разьвязьліва. — Я дзяжурнаму па Угрозыску сказаў, каб жонку паведамілі. Яна ў мяне партыйная, сябра Ленсавету і соцвыхам займаецца. Пазваніла, куды трэба, і ўраз выпусьцілі ..

Схвалёваны Павал Захарыч, разьлічваўшы на паказальны суд над музэйным злодзеем, кінуўся ў Угрозыск. Але там яму далікатна вытлумачылі, што Чыгір запраўды не падлягае адказнасьці, таму што „выясьнена“ (за адну пару!!!???), што Чыгір лячыўся ў псыхіятрычнай клініцы і „вар‘ят“.

Таварыш Сіўкоў пратэставаў, але пракурор пры Угрозыску пацьвярдзіў пастанову аб пагашэньні справы. З таго часу мінуў год. Дарэмна Марскі музэй, згубіўшы вялікія каштоўнасьці, борацца за магчымасьць пакараць зладзеяў. Дарэмна Павал Захарыч Сіўкоў прабаваў друкаваць матар‘ялы аб гэтай справе, дарэмна пісаў краёваму пракурору, дарэмна паведамляў краёвую камісію партыйнага кантролю пра невытлумачальнае павядзеньне сяброўкі партыі, каторая хавае ў сваёй шафе крадзеныя музэйныя рэчы, аб паходжаньні якіх яна не магла ня ведаць і зьяўлялася выразнаю перахоўвальніцай крадзенага.

Усе стараньні глохнуць, як удары ў падушку.

„Вар‘яцтва“ Чыгіра носіць зацяжны характар. Як відаць, дык мадам Чыгір запраўды ведае, куды трэба „званіць“.

